ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 33 (2559)
ПЯТНІЦА
13
жніўня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Глядзельная зала — шырокі калгасны прасцяг.

# ХЛЕБ І ПЕСНЯ

ІМЧЫЦЬ па сельскіх дарогах блакітны аўтобус. Ад калгаса да калгаса, ад брыгады да брыгады—такі маршрут агітпоезда «Нёман». Сёння яго прыпынак у сельгасарцелі «Чырвоная зорка». За вокнамі—гаманкое, гарачае лета. Здаецца, сонца азалаціла ўсё наваколле. Шумяць, пералiваюцца жоўтымі хвалямі бяскрайнія палеткі збажыны. У залаціста-жоўтым уборы стаіць высокі, густы лён. Наліваюцца сокамі зямлі чырвоныя гронкі рабіны...

Гарачыня, спёка. Самы прыпар цяпер у вёсцы—ідзе жніво. Агітбрыгада Стаўбцоўскага раённага Дома культуры спяшаецца на сустрэчу з хлебаробамі. Дванаццаць энтузіястаў самадзейнага мастацтва, людзей натхнёных, улюбёных у сваю справу, горача аддадзеных ёй.

Дзіна Уладзіміраўна Кухарава—кіраўнік агітбрыгады, душа і сэрца калектыву, яго ветэран, галоўны выдумшчык і сцэнарыст. Сёння яна сцішаная, задуменная. У руках трымае лісткі сцэнарыя, нешта занатоўвае. Сын у яе скончыў школу, хоча паступаць у інстытут. Як яно будзе? Трэба было б быць з хлопцам. А яна па канцэртах раз'язджае. Ці добра гэта?..

Пятнаццаць год жыцця аддадзена агітбрыгадзе. Не злічыць дарог, пройдзеных за гэты час. На машыны не спадзяваліся, іх тады не было. Добра, калі брыгадзір дасць каня: хоць касцюмы падвязеш. Хадзілі пешкам і ў зімовую сцюжу і ў асеннюю непагадзь за дваццаць і больш кіламетраў. І ніхто ніколі не скардзіўся на гэтую. Цяпер жа і машына, і касцюмы багатыя, і баяніст, гатовы заўжды памагчы...

— А памятаеце, як ездзілі ў Слабодку?—парушае цішыню звонкі голас Валі Рудзік.—Мароз, завіруха, свету не відно. Машына буксуе... Ну і смеху было...

— Добры смех!— перабівае яе Яніна Рымашэўская.—З дарогі збіліся. Вылезлі з аўтобуса, піхаем яго, а ён ні з месца, хоць плач. Цэлыя траншэі ў снезе капалі... Праехалі якіх з паўкіламетра, і зноў аўтобус стаў... Замест васьмі гадзін вечара прыехалі ў тую Слабодку апоўначы. Цішыня. Вёска спіць. У клубе ні агеньчыка. «Чакалі вас, чакалі, ды разышліся з гадзінку назад,—сказаў вартаўнік.—Заходзьце ў клуб, грэйцеся, а я тым часам дам знаць».

— Настрой ва ўсіх, ведаеце, які,—працягвала свой расказ Валянціна Рудзік.—Стаміліся ўсе едучы—і на табе, ні душы. Але праз гадзіну ў клуб набілася столькі людзей! Здаецца, мы ніколі з такім натхненнем не выступалі. Сустракалі нас, нібы тых герояў. Далоні, відаць, паапухалі ад воплескаў... Калі бачыш, што радуюцца людзі, думаеш: дзеля гэтага варта жыць і працаваць...

— І нягоды цярпець...—дабаўляе Марыя Грэсь.

Разам з мужам Змітраком Грэсем яна—нязменны ўдзельнік усіх паездак. Жартоўныя сцэнкі Грэсяў карыстаюцца вялікім поспехам у гледача, упрыгожваюць канцэрт.

Марыя і Змітрок Грэсі—работнікі культуры. У іх двое дзяцей. Малыя прывучаны да частых адлучак бацькоў. Але ўсё ж сэрца шчыміць: як там малыя? Ці патрапіла бабуля зрабіць усё як след? А тут яшчэ вучоба—Змітрок завочна ў педінстытуце вучыцца. Учора прыехаў з сесіі, а сёння едзе на канцэрт.

Аўтобус імчыць паўз ільнянoе поле. Удалечыні стракаціць ільноцерабілка. Жанкі вяжуць лён у снапы.

— Ой, удаўся, удаўся лянок,—спяваюць калгасніцы. І песня іх ляціць па шырокім прасторы і губляецца недзе ў блакітным небе.

— Паслухайце, як хораша спяваюць жанчыны!—захапляецца Ірына Пявец.—О... О, чуеце? На свой лад пераіначылі...

Артысты дружна падхопліваюць песню...

Ірына Пявец і Ала Тумікоўская—школьніцы, вучаніцы старшых класаў. Дзяўчаты любяць песні і вельмі ганарацца тым, што іх прынялі ў агітбрыгаду. Маладая змена... А таленты шукаюць не толькі ў школах і калгасах раёна, сярод работнікаў культуры.

Актыўныя ўдзельнікі калектыву—Святлана Кот, дырэктар Старынскага сельскага Дома культуры, Валянціна Троцкая—мастацкі кіраўнік Заямненскага Дома культуры. Дзяўчаты ўвішныя. Песню і частушку праспяваюць, спатрэбіцца—у ролі канферансье выступяць і верш прачытаюць.



«Генеральная» рэпетыцыя ў аўтобусе.

Гэта іх своеасаблівая стажыроўка. Чаму навучацца ў агітбрыгадзе, дзяўчаты перадаюць свайму самадзейнаму калектыву. Так узнікаюць у раёне новыя агітбрыгады—сельскія.

А вось Валодзя Місюк. Былы настаўнік, працаваў у сельскай школе. Захапляецца самадзейным мастацтвам. Цяпер у райкоме камсамола загадвае аддзелам. У агітбрыгадзе ён чытальнік. Любіць паэзію Якуба Коласа, Янкі Купалы, Пімена Панчанкі і з захапленнем чытае іх вершы.

Сапсаваны настрой сёння толькі ў Святланы Грамавой.

— Гора мне з гэтымі артысткамі,—дапякаў дзяўчыну загадчык аддзела райвыканкома.—Зноў едзеш, зноў увільваеш ад работы. Трэба табе, дзеванька, выбіраць што-небудзь адно: або работа, або канцэрты.

Балюча, крыўдна. І як шкада, што бывае яшчэ такое.

І, нарэшце, баяніст Васіль Уласік. Яго нічым не здзівіш—спакой філосафа. Ведае, чым лячыць дрэнны настрой артыстаў. Бягуць пальцы па клавішах баяна... Глядзіш— і на тварах дзяўчат заззяла вясёлая ўсмешка.

(Заканчэнне на 9-й стар.)

# ...ПЛЮС КУЛЬТУРНАЕ ШЭФСТВА!

Вялікі сэнс змяшчае ў сабе народжанае яшчэ першымі паслякастрычніцкімі гадамі слова «змычка», калі мелася на ўвазе збліжэнне горада з вёскаю. Змычка вяла і вядзе да сцірання граняў паміж сельскай і прамысловай працаю, паміж сацыяльным развіццём жыхароў гарадской і сельскай мясцовасцей, вядзе да высокага ўзроўню культуры і эканомікі ўсіх людзей, дзе б яны ні працавалі, дзе б ні жылі — у вёсцы ці ў горадзе.

Больш як дзесяць гадоў працягваецца сяброўства двух буйнейшых працоўных калектываў нашага горада і раёна — галаўнога прадпрыемства дрэваапрацоўчага аб'яднання і калгаса імя Аляксандра Неўскага. Для дрэваапрацоўшчыкаў здаўна стала традыцыяй арганізоўваць масавыя выезды, каб памагчы сельскім працаўнікам на сенакосе, уборцы бульбы і збожжа. У вёсцы часта бывае агітбрыгада Дома культуры прадпрыемства — выступае перад калгаснікамі проста на палях, на фермах.

Калі ў мінулым годзе на прадпрыемстве складалі план сацыяльнага развіцця свайго калектыву, генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання Аляксандр Аляксандравіч Санчукоўскі прапанаваў асобны раздзел у гэтым плане прысвяціць умацаванню садружнасці паміж працаўнікамі прадпрыемства і падшэфнага калгаса, аказаць калгасу дапамогу ў стварэнні і ажыццяўленні свайго пяцігадовага плана сацыяльнага развіцця. Такім чынам, планы сацыяльнага развіцця калектываў прадпрыемства і калгаса цесна перапляліся. Аб гэтым варта расказаць больш падрабязна, бо справа новая і надзвычай цікавая.

Народныя універсітэты прадпрыемства стварылі свае філіялы ў падшэфным калгасе. Са сцэны калгаснага клуба па пытаннях культуры, эканомікі, міжнароднага жыцця, аховы здароўя, савецкага заканадаўства пачалі выступаць лектары прадпрыемства. Шэфы падумалі і аб тым, якім павінен быць сучасны сельскі клуб. Не, ён не можа нагадваць хату-чытальню дваццатых ці саракавых гадоў — з драўлянымі лаўкамі грубай цяслярскай работы, пабеленымі прыбіральшчыцай сценамі. З сэканомленай сыравіны ў нерабочы час, разам з калгаснымі майстрамі, шэфы зрабілі для клуба прыгожую мэблю, абсталяванне — амаль такое, як у Доме культуры прадпрыемства.

Дрэваапрацоўшчыкі часта праводзяць урачыстае пасвячэнне моладзі ў рабочыя, вечары камсамольскага вяселля, акцябрыны, святы працы, кніжныя балі, многія іншыя цікавыя мерапрыемствы. Апошні год увайшло ў традыцыю праводзіць такія мерапрыемствы сумесна з калгасам — па чарзе то ў Доме культуры прадпрыемства, то ў калгасным клубе. Для працаўнікоў падшэфнага калгаса адчыніліся дзверы заводскага прафілакторыя, зялёнай зоны здароўя, піянерскага гарадка «Лясная казка». Па прыкладзе шэфаў і з іх дапамогай савет па арганізацыі адпачынку створан і ў калгасе. Часта наведвае вёскі пастаяннадзеючая юрыдычная кансультацыя прадпрыемства. Каб укараніць вытворчую эстэтыку і навуковую арганізацыю працы, некалькі гадоў назад на прадпрыемстве стварылі спецыяльны «цэх эстэтыкі». Работнікі гэтага «цэха» вельмі часта бываюць у падшэфным калгасе, адкрылі там свой філіял: падрыхтавалі для калгаса некалькі грамадскіх інспектараў вытворчай эстэтыкі, паклапаціліся аб афармленні вёсак нагляднай агітацыяй, штогод праводзяць у вёсцы свята моднага адзення...

Я невыпадкова спынілася на шэфскай рабоце самага буйнага працоўнага калектыву горада. Тут робіцца шмат цікавага. Але сёння вопыт шэфскай работы дрэваапрацоўшчыкаў стаў ужо здабыткам і іншых прадпрыемстваў. Шэфская дапамога калгасам і саўгасам у інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі, яе тэхнічным пераўзбраенні, павышэнні эфектыўнасці вытворчасці ўсё мацней сплятаецца з культурным шэфствам. Гэта з'ява народжана часам, а час прад'яўляе патрабаванні да ўсіх калектываў прадпрыемстваў.

На машынабудаўнічым заводзе імя Леніна створаны творчыя брыгады інжынераў, тэхнікаў і рабочых-рацыяналізатараў. Яны дапамагаюць падшэфнаму калгасу імя XXII з'езда КПСС механізаваць фермы, стварылі з калгасным інжынерам Каліноўскім пастаянную школу тэхнічных ведаў, школу павышэння рабочага майстэрства сельскіх механізатараў. Па ініцыятыве шэфаў у калгасе праводзяцца конкурсы па культуры вытворчасці, калектыўныя прагляды тэатральных пастановак і кінафільмаў. Рабочыя разам з калгаснікамі абмяркоўваюць іх.

А вось яшчэ цікавая дэталь: калгас імя XXII з'езда КПСС выпускае сваю друкаваную шматтыражку. У дрэваапрацоўшчыкаў таксама ёсць шматтыражная газета. У кожным нумары калгаснай газеты адна калонка прысвячаецца жыццю шэфаў-машынабудаўнікоў, а ў дрэваапрацоўшчыкаў штотыднёвік рэгулярна друкуе матэрыялы з жыцця падшэфнага калгаса імя Аляксандра Неўскага.

Наша швейная фабрыка імя Дзяржынскага — прадпрыемства высокай культуры вытворчасці — пасобіла падшэфнаму калгасу «Шлях да камунізма» ажыццявіць ужо вельмі многае з распрацаванага тут плана сацыяльнага развіцця: пераабсталяваны калгасны клуб, прыгожа аформлены культасветустановы вёсак нагляднай агітацыяй, папоўніўся гардэроб калектыву калгаснай самадзейнасці, вырас кніжны фонд калгаснай бібліятэкі. Часта на канцэртах мастацкай самадзейнасці прадпрыемства можна ўбачыць салістаў калгаснай самадзейнасці і наадварот — на калгаснай сцэне выступаюць салісты фабрычнага хору. Дарэчы, па пытаннях культурнага шэфства партыйны камітэт фабрыкі рэгулярна практыкуе аб'яднаныя пасяджэнні з членамі калгаса.

У раёне кажуць, што хімоўскія калгаснікі з сельгасарцелі «Шлях да камунізма» апрануты па апошняй модзе. Так і ёсць. Нічога дзіўнага ў гэтым няма: над калгасам шэфствуюць заканадаўцы моды — швейнікі. Ніякай нечаканасці няма і ў тым, што ў далёкіх ад горада вёсках Хімоўскага сельсавета ідзе зараз масавы паход за высокую культуру сяла, за эстэтыку вытворчасці. Нашай швейнай фабрыцы адной з першых у рэспубліцы было прысвоена званне «Прадпрыемства высокай культуры вытворчасці». І сёння сваю культуру швейнікі панеслі ў падшэфны калгас.

Шмат цікавага вопыту ў шэфскай дапамозе вёсцы на заводзе гумавых тэхнічных вырабаў, вагавым заводзе, гарбарным камбінаце, заводзе сельскагаспадарчага машынабудавання, у будаўнічым трэсце № 13. Гэта і сумесныя вечары, уручэнне сцягоў і прэмій перадавікам вытворчасці падшэфных гаспадарак, арганізацыя ў вёсцы філіялаў музычных школ, музычных студый, правядзенне сумесных літаратурных віктарын, сустрэч з пісьменнікамі, артыстамі, мастакамі. Ёсць музычны лекторый на трыкатажнай фабрыцы, у 23 сярэдняй школе, у гарадскім клубе медыцынскіх работнікаў, і ўсе гэтыя лекторыі маюць свае філіялы ў падшэфных гаспадарках. На большасці прадпрыемстваў практыкуюцца сумесныя правядзенні вечароў маладога працаўніка і святаў ветэранаў вытворчасці.

Якое б прадпрыемства ні праводзілася шэфамі горада ў калгасах і саўгасах, яно заўсёды звязана з задачамі культурнага шэфства. Неяк у ліпені 3,5 тысячы працоўных горада выехалі ў падшэфныя гаспадаркі на суботу і нядзелю, каб дапамагчы сельскім працаўнікам нарыхтаваць сена. Але гэтым іх клопат не абмежаваўся — яны наладзілі 40 вечароў адпачынку з канцэртамі, выпусцілі 110 нумароў насценных газет і баявых лісткоў, у дванаццаці клубах адрамантавалі памяшканні і культінвентар.

Змычка паміж гарадскімі і сельскімі культасветнымі ўстановамі праводзіцца і па іншых лініях: арганізуюцца сумесныя семінары бібліятэчных і клубных работнікаў, сустрэчы кінафікатараў. Бабруйскі краязнаўчы музей дапамог многім калгасам і саўгасам, сельскім клубам стварыць куткі баявой і працоўнай славы. Каардынуюць сваю работу метадычныя саветы гарадскога і раённага аддзелаў культуры, яны разам распрацавалі шэсць сцэнарыяў для тэматычных канцэртаў сельскай мастацкай самадзейнасці. Цэнтральная гарадская бібліятэка імя Горкага і дзіцячая бібліятэка імя Крупскай стварылі спецыяльныя групы з вопытных бібліятэчных работнікаў, якія памагаюць Кавалеўскай, Сычкаўскай, Гарбацэвіцкай, Цялушскай і іншым сельскім бібліятэкам раёна рыхтаваць кніжныя агляды, праводзіць канферэнцыі чытачоў. Сельскую мясцовасць пачало абслугоўваць гарадское аддзяленне таварыства «Веды». Лектары Мадзіеўскі, Збароўскі, Мазгавы, Бараўскіх і іншыя правялі на Кіраўшчыне, Клічаўшчыне, Глушчыне больш чым 100 вечароў пытанняў і адказаў, прачыталі 200 лекцый на атэістычныя, гістарычныя, літаратурныя тэмы. У горадзе ёсць дзве музычныя школы і каля 20 музычных студый. Кожны другі музыказнаўца або выкладчык музыкі замацаваны за пэўным сельскім калектывам мастацкай самадзейнасці...

Такія ў нас справы. З расказанага відаць, што зроблена ў культурным шэфстве нямала. Але мы не лічым, што зроблена ўсё. Трэба адкрыта сказаць: ёсць пралікі, нявырашаныя пытанні.

Бывае, што новую справу вітаюць вельмі горача і... не даводзяць да канца. Некалькі гадоў назад старэйшая артыстка нашага тэатра Таццяна Бандарчык арганізавала ў калгасе «Перамога» самадзейны калгасны тэатр — спадарожнік гарадскога тэатра. У сельскім калектыве была наладжана студыйна-рэжысёрская работа, пастаўлены першыя спектаклі. Потым Бандарчык пайшла на пенсію, і творчы калектыў тэатра забыў аб калгасе, аб сваёй добрай ініцыятыве. Між тым, калі стваралі першы свой спадарожнік, у тэатры гаварылі аб мэтазгоднасці стварыць яшчэ некалькі такіх сельскіх творчых калектываў. Але карысную справу не давялі да канца.

Цяжка сельскаму клубу, калі няма музычнага работніка. Мы разумеем гэта. Але, на жаль, тут цяжка зрабіць што-небудзь. Не так даўно па ініцыятыве дырэктара нашай музычнай школы Ю. Бычкова быў створан клас скарочанай вучобы, у якім рыхтавалі сельскіх баяністаў. Усяго падрыхтавалі каля 30 музыкантаў. Вучыліся загадчыкі сельскіх клубаў, мастацкія кіраўнікі, удзельнікі мастацкай самадзейнасці. Але 30 баяністаў — як гэта мала для нашага раёна! Ды і прыдумка — клас дарослых пры дзіцячай музычнай школе — справа не вельмі зручная. Добрая ініцыятыва заглухла. Зараз, калі ў горадзе існуе вячэрняя музычная школа, мы мяркуем стварыць пры ёй пастаяннадзеючыя два класы па падрыхтоўцы сельскіх музыкантаў. Але ўсё гэта не так лёгка зрабіць, як думаецца. Не заўсёды ахвотна вылучаюць людзей на вучобу, часам цяжка вырашыць, як аплочваць ім час вучобы. Але думаю, што гэтыя пытанні ўсё-такі будуць вырашаны.

Многія кіраўнікі гаспадарак лічаць: наступіў час, каб побач з тэхнікам па газіфікацыі, спецыялістам па тэлевізійнай апаратуры кожная гаспадарка мела свайго мастака, фатографа. У гэтым таксама могуць дапамагчы гарадскія ўстановы. Мы зараз абмяркоўваем, як лепш арганізаваць курсы мастакоў пры нашых гарадскіх мастацкіх майстэрнях. На іх трэба будзе пасылаць здольных юнакоў і дзяўчат сяла. Па такім жа прынцыпе арганізуем курсы падрыхтоўкі для вёскі спецыялістаў мастацкага фота.

У нашых падшэфных гаспадарках яшчэ мала брыгадных клубаў. Па ініцыятыве камсамольскай арганізацыі будаўнічага трэста № 13, аўтатэхнікума створаны маладзёжныя будаўнічыя атрады, якія пачалі ўзводзіць брыгадныя клубы. Гарадскі камітэт партыі падказаў партыйным і камсамольскім арганізацыям прадпрыемстваў і ўстаноў падтрымаць іх пачын.

Такі закон жыцця: кожны дзень, кожны год ставяць свае праблемы, задачы. Чым больш актыўная шэфская работа прадпрыемстваў горада ў калгасах і саўгасах, тым мацней іх дружба, хутчэй расце і збліжаецца іх агульная культура. Я упэўнена, што пяцігадовыя перспектыўныя планы, якія распрацаваны зараз на кожным прадпрыемстве, у кожным калгасе і саўгасе, яшчэ больш паслужаць агульнаму росквіту культуры, умацаванню дружбы горада і вёскі.

**З. ЗАРЭЦКАЯ,**
сакратар Бабруйскага гарадскога камітэта КПБ

# ЛЯ КУПАЛАВАЙ ВЯЗЫНКІ



# ВЯСНОВЫЯ ЛІЎНІ



Алесь ДЗЯТЛАЎ

АПАВЯДАННЕ

КОЖНУЮ раніцу стары настаўнік, цяжка апіраючыся на кіёк, выходзіў на вуліцу. Ён шоргаў па надворку, адчыняў вузкія, рыпучыя, з тонкіх штыкецін веснічкі ў садок, ступаў колькі крокаў і цяжкавата апускаўся на халаднаватую лаўку. Ён прыстаўляў да сцяны кіёк, далоняй узнімаў брыль старой кепкі і глядзеў туды, дзе ў далёкай яснасці ўставала сонца. Было яно чыстае, халаднавата-зыркае; неўпрыкмет вышэла і вышэла над голай вёскай, што двума радамі хат абвіла невялікі грудок. Там, ля самых гародаў, няроўнай палоскаю бялеўся снег: крышку бліжэй жухлай травою шарэла сенажаць: тут ужо снегу не было. Толькі дзе-нідзе ў ніжэйшых месцах ляжалі бруднавата-белыя пасмы.

Старому настаўніку здалося, што зямля пахне нечым да шчымлівасці дарагім. Яно цячэ ў душу кідкім хараством вось гэтай зыркай раніцы, б'ецца ў кожнай жылцы. Настаўнік любіў гэтую светлую крышталёвую раніцу, гэты тоненькі лядок, якім зацягвала ноччу лужыны, свой невялікі голы садок, яшчэ па калена ў снезе. Усё здавалася для яго новым, нейкім нязвыклым, не такім, якім было ў тыя, мінулыя вёсны. У жыццёвым тлуме ён неяк не заўважаў усяго гэтага. Раней вясна была для яго звычайнай парой года, першая трава — як напамінак аб блізкім цяпле, а кветкі — пачатак экзаменаў, клопатаў. І вось цяпер ён да болю ў сэрцы зразумеў, як многа ён прапусціў міма; і адначасна быў шчаслівы, што гэта пачуццё усё ж прыйшло да яго, адкрылася ў сваёй навізне і першароднасці. «А можа, усё гэта было б сёння для мяне не такім шчымліва-свежым і новым, калі б прыйшло раней? А можа, гэта ніколі не надакучвае чалавеку, заўсёды свежае, кідкае і дарагое? А мо... Ды што ты, Піліп Пятровіч, радуйся таму, што так нечакана адкрыў для сябе, і што цяпер будзе з табою вечна. Яно тваё, і ніхто яго ад цябе не адыме. Але каб зразумець гэта, трэба было перажыць доўгую цяжкую зіму, перасіліць хваробу, што, здавалася, злыгала на ўсё жыццё»...

І ён раптоўна зразумеў, што цяпер ён будзе жыць, і што гэтае новае пачуццё дапаможа яму, яно будзе з ім. Гэтая думка ледзь-ледзь затрымцела ў ягонай душы, неўпрыкмет мацнела, і вось яна ўжо завалодала ім. Ён адчуў, што балючая задушная зіма ззаду, што ён не такі, якім быў яшчэ ўчора. Нібы жыццё рэзка раздзялілася на дзве няроўныя палавіны, і сённяшняя раніца — мяжа між тым, што прайшло, і гэтым, будучым, што наступіла. Яму стала вальней, ён сядзеў і ўсміхаўся, і не хацелася падымацца, ісці ў хату, кідаць усю гэту таямнічасць, што адкрылася так нечакана...

Хвароба падкасіла Макарчука ўвосень, на шостым дзесятку жыцця. Ён жыў, працаваў і амаль што забыўся на тое, што калісь гаварыў яму франтавы хірург: «Гэта — на ўсё жыццё. Можа, яшчэ абыдзецца. Але беражыся, беражыся...»

Ён не чуў хваробы, нават забываўся на тое, што нешта чакае яго ў будучым. Але ўсё ж часам нейкі маленькі востранькі асколачак ныў у сярэдзіне, вярэдзіў нешта ў душы. І тады ён хмурнеў, яму як бы нечага неставала, быў усім незадаволены.

Макарчук пачуў, што гэта прыходзіць у класе, Потым ён правёў яшчэ адзін урок, прыцёгся дадому і тут зразумеў: заўтра ён не пойдзе ў школу, можа, ужо ніколі не будзе вучыць дзяцей. Стары настаўнік думаў пра самае горкае, што можа здарыцца, рыхтаваў сябе да гэтага. І калі ўрачы вынесуць свой прысуд, ён ведаў, што сустрэне яго спакойна. Чаканне найгоршага — гэта нібы яго імунітэт у цяжкай і зацятай барацьбе з хваробай, якую ён вёў усе гэтыя гады. І ўсё ж дзесь у сярэдзіне ліпеў кволенькі спадзяванак: можа, пройдзе, можа проста дзе застудзіўся, і праз дзень-два падымецца, пойдзе ў школу. Зноў думкі выслізгвалі, нібы жывыя, ён імкнуўся іх злавіць, дабіцца нейкай пэўнасці — і не мог.

Урачы паставілі дыягназ: сэрца, рэўматызм. Ён стрэў гэта спакойна, падрыхтаваўся да доўгіх цягучых месяцаў, дзе надзея і горыч, ён ведаў, будуць змяняць адна другую...

Макарчук паволі ўзняўся з лаўкі, узяў свой кіёк і пасунуўся ў сад. Ён брыў, нібы сляпы; асцярожна, як бы баючыся кудысь праваліцца, ступаў на насок, потым паволі апускаўся на ўсю ступню. Гэтак жа сама падцягваў другую нагу, дробненька стукаў у зямлю кійком, нібы намацваючы трывалейшае месца. Ён дацягнуўся да бліжэйшай яблыні, спыніўся і цяжка абапёрся локцем на ніжнюю адгаліну. Вакол яблыні ляжаў брудны, здаецца, з веднае гразюкі, снег. Тоненькі ручаёк выцек з-пад гэтай камлыгі, прабіў сабе яшчэ ў мерзлаватай зямлі кароценькае ложва і паціху цурыўся ў разору. На маладой яблыні набраклі почкі; каб не калючыя начныя марозікі, здаецца, ураз выкінула б свае лісты, зацвіла. «Якое магутнае жыццё стаілася ў гэтых цемнаватых камячках, — падумаў Макарчук. — Прыйдзе час, і яно шугане нястрымна і шырока, нібы плынь. І ніхто яе не зможа спыніць»...

...Тады, у сорак чацвёртым, таксама была вясна. Вось гэтак па начах застывалі на марозе лужыны, а потым звонка і ясна ўставала раніца. Востра рэзаў лесавую ціш стрэл, рэха несла яго далей, і дзесь там, за ракою, заглухала, нібы зашывалася ў гнілыя балоты. А з другога боку, ад ракі, паласаваў лес кулямёт: немцы аблажылі іх невялікую партызанскую групу з усіх бакоў. Тры дні яны адбіваліся, а на чацвёртым іх змялі, упляскалі ў балота.

Піліп Макарчук ляжаў крайнім, ля самай твані. Гэта яго і ўратавала. Першая міна чмякнулася ў балота, другая вухнула зусім побач, аглушыла. Нешта цяжкае шкуматнула паўкажушак, балюча выцяла плячо. Ён гатовы быў праваліцца ў нешта цёмнае і гарачае, і намаганнем волі адцягваў гэты міг. Нібы ў тумане, які заслаў вочы, згледзеў, як наперадзе за голым кустом арэшніку матлянуліся постаці. Ён зразумеў, што там, за паўсотню крокаў, яго смерць, ад якой няма ратунку. Перш, чым страціць прытомнасць, ён зрабіў адзінае, што яшчэ мог зрабіць. Калі фігуркі ўзняліся і порстка рвануліся наперад, крышку наўскасяк ад яго, на цэнтр іх абароны, ён здаровай рукой падвёў мушку аўтамата да адзінай бярозкі, у якой асколкам зрэзала верх, ямчэй прыставіў прыклад да пляча і стаіўся. Вось немцы залеглі, а потым неяк раптоўна шэравата-цёмныя постаці выраслі ля самай бярозкі. Піліп націснуў на курок... Там, у рэдкім тумане, падалі, курчыліся фігуркі ў доўгіх шынялях, некаторыя адпаўзалі назад. А ён страляў і страляў. Дрыжаў аўтамат, нібы жывы, Піліп чуў сябе моцным. Ён не помніць, колькі так працягвалася. Нешта цёплае ўдарыла ў галаву, туманам заслала вочы, і ён, здаецца, кудысь праваліўся.

Немцы яшчэ доўга не падыходзілі. Потым акружылі яго, адзін з іх адкінуў нагой аўтамат, выцяў нагой па баку і задаволена зарагатаў:

— Зэр гут!

Потым карнікі сарвалі з яго кажушок і пайшлі.

Усяго гэтага не чуў Піліп. Акрыяў ён уначы. Адплюшчыў вочы, учуў глухі, журкатлівы плёскат вады. Спачатку з жахам падумаў, што сляпы, а потым, калі вочы прызвычаіліся да цемнаты і ён убачыў вакол сябе высокія чорныя цені, з палёгкай уздыхнуў: жывы. Крыху ачомаўся і зразумеў: у лесе бушуе лівень. Ён глуха сек па вершалінах, нібы хто аграмадны цягаў па голлях сувой палатна. Дождж ішоў роўна; Піліпу здалося, што ўсё вакол гэтай ноччу мокрае: і ён, і зямля, і дрэвы. Хацеў павярнуцца на бок, нешта балючае тарганула ў плячо, і ён зноў праваліўся ў глыбокую цемень...

На трэцюю ноч яго падабралі партызанскія разведчыкі. Усклалі на самаробныя насілкі і гэтак неслі па лесе. А потым, як крыху акрэп, адправілі за лінію фронту, да сваіх.

Раны зацягнуліся хутка. Толькі ногі нібы не свае, а чужыя, нейкія патырчакі. Прайшло лета, восень, а Піліп ляжаў у шпіталі.

— Будзеш жыць, вось толькі...

Доктар не дагаварыў, нібы баяўся сказаць.

— Гаварыце, доктар, я ўсё вынесу. Ці буду я хадзіць?

— Хадзіць будзеш. Але... рэўматызм, гэта надоўга. Сэрца — вось за што я баюся. Тыя тры дні на марозе, мокры... Я здзіўляюся, як ты выжыў...

...Сонца павышэла, угравала зямлю. Яно як бы спацела, размякла. Вялікі лапік снегу ў канцы саду ўвачавідкі асядаў, наздрыўся, як бы хто знізу яго падшавельваў.

— Піліп, ідзі ў хату. Нешта сёння ты замнога ходзіш, — загукала з двара жонка.

«Вось дзівак, — усміхнуўся Макарчук. — Я тады баяўся, а цяпер... Што ты скажаш цяпер? Мне трэба было захварэць другі раз, каб я павершў у сябе, перастаў баяцца».

— Піліп, ці чуеш ты?..

Ён толькі цяпер учуў, што яго кліча жонка, спахапіўся, вышаргаў на сушэйшае месца і пасунуўся дадому.

З жонкай ён пражыў трыццаць год. Дзеці выраслі, раз'ехаліся, малодшая — Галя — вучыцца ў педінстытуце: будзе настаўніцай. Сёлета здасць экзамены, і, магчыма, прыедзе настаўнічаць сюды, у Чыжэвіча...

Той настрой, які быў з раніцы, не пакідаў яго. Нешта новае, дзіўнае завалодала ім. Макарчуку захацелася штосьці рабіць. Глянуў на свае старыя канспекты, што ляжалі на ніжняй паліцы этажэркі, і зразумеў, як доўга не быў у школе. Клас... Яго клас, фізіка... Як гэта ўсё далёка. Тады здаваліся яму заняткі часам шэрымі буднямі, нудлівым абавязкам. Чвэрці ішлі за чвэрцямі, урокі, доследы, планы. Стары настаўнік уздыхнуў: «Яшчэ раз, хоць адзін раз, увайсці ў клас, правесці ўрок, і тады...»

Ён прайшоўся па пакоі, зазірнуў у кухню, дзе ля печы завіхалася жонка, і зноў прыцёгся на чыстую палавіну. Неадчэпна білася нейкая думка, матлялася, знікала і зноў прыходзіла: успамінак пра работу. «Ах, стары дурань, рана думаць пра смерць. Табе сёння лепш, вось і падумаў пра работу».

Піліп Пятровіч узяў з паліцы Тургенева. Ён любіў яго, у кожную вольную хвіліну чытаў і перачытваў.

— Піліп, ці чуў ты навіну? — у пакой зайшла жонка.

Ён схамянуўся, запытальна глянуў на яе.

— Гэты самы, ну, Ганнін Пятрусь...

Макарчук няўцямна глянуў на яе, потым даўмеў, што гаворка ідзе пра аднавяскоўца, яго былога вучня, ужо з цікавасцю пацвердзіў:

— А, Пятрусь Салевіч. Помню такога. Дужа ён вучыцца не хацеў. Ледзь выграбся са школы.

— Дык вось, ішла з магазіна Наста Савейкава, казала, што Пятрусь ледзь не загінуў. Нешта там на будоўлі ратаваў. Гавораць, пры смерці ляжыць, а ўсё ж іншых спас. Ганна паехала сёння да яго...

Жонка пайшла ў кухню. Макарчук стаў ля акна, глядзеў на ціхую вясковую вуліцу. Перад вокнамі туды-сюды матляўся жалезны вочап: за гародчыкам быў калодзеж. Ён думаў пра таго, хто калісь быў яго вучнем, а цяпер недзе ляжыць у бальніцы.

«Пятрусь, Пятрусь Салевіч... Ніколі не скажаш, што адкрыецца ў чалавеку ў будучым. Калі б мне хто сказаў, што Пятрусь на нешта здольны, то я... Як мы ўсе часам памыляемся ў людзях!»

Піліп Пятровіч адышоўся ад акна прысеў на канапу. «Вось я і пачаў жыць, у трэці раз. Не, мусіць, гэта толькі розныя павароты аднае дарогі. Я памыляўся ў жыцці, што-кольвечы не разумеў ці не хацеў разумець. Той самы Салевіч. Штосьці было ў ягонай душы, а я не мог дакапацца. Эх, калі б пачаць усё спачатку! А мо не трэба шкадаваць пра тыя гады, якія сплылі і больш ніколі не вернуцца? Нехта іншы зробіць тое, што не паспеў ты. Але ўсё ж у тым, іншым, будзеш прысутнічаць і ты. Тое, што раздаваў людзям, не прападае...»

Уначы нацягнула лівень. Ён ударыў нечакана, змыў з гародаў апошнія брудныя лапікі снегу. Раніца чакалася свежай, маладой і вабнай.



## ФЕСТЫВАЛЬНЫЯ СУСТРЭЧЫ

**Некальні дзён у кінатэатрах Мінска ішлі фільмы, якія былі паказаны на VII Маскоўскім міжнародным кінафестывалі. Жыхары беларускай сталіцы пазнаёміліся з мастацкімі стужкамі Польшчы, Чэхаславакіі, Югаславіі, Англіі, ЗША, Мексікі і іншых краін. З мінчанамі сустракаліся зарубежныя ўдзельнікі фестывалю — госці з Югаславіі і Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам.**

**Яны пабывалі ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, наведалі мемарыяльныя комплексы «Хатынь» і «Курган славы».**

НА ЗДЫМКУ: удзельнікі VII Маскоўскага міжнароднага кінафестывалю перад сустрэчай з гледачамі ў кінатэатры «Мір».

Фота В. ДУБІНКІ.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**





— Як я пачаў рабіць гумарыстычныя малюнкі? Амаль выпадкова... Аднойчы папрасіў мяне сябра «падкінуць» у рэдакцыю яго малюнкі. Я згадзіўся і... згубіў іх у тралейбусе. Што было рабіць? Перад сябрам нямёмка і рэдакцыю падвесці нельга. Аднавіў малюнкі па памяці. Спадабалася. З таго часу і займаюся гэтай справай, але дасылаю малюнкі ў рэдакцыю толькі па пошце, заказным лістом.

Л. ВЯЗНІКАЎ.











Алесь КАВІНЬКА

## СОЛЯЦЬ, НА ЖАЛЬ, НЕ БОРШЧ...

ШТО РАБІЦЬ, запытаем сябе мы, каб дзеці не былі разумнейшыя за бацькоў?

Ну, вось такія маленькія, што на свае дзіцячыя ножкі пачынаюць станавіцца, трымаючыся за стол, і такія, што ўжо самі ходзяць, бегаюць і самастойна вымаўляюць:

— Мама! Тата, гам!..

Мы ведаем, што дзетвару такога кантынгенту маральна выхоўваюць у дзіцячых садах. Навучаюць далікатна, навучаюць цярпліва.

Вучаць, каб яны былі ласкавыя, каб яны былі і дасціпныя.

Там, напрыклад, такой мудрасці не вучаць: «Яно ж у мяне такое рэзвае, бойкае, такое памятлівае. Хочаце верце, хочаце не верце, я толькі адзін раз паказала, а цяпер яно так завучыла ўсё, што і мяне ў гэтай навуцы за пояс заткне... Само і плюецца, само і кукіш дае...»

Такому, прызнаемся, у дзіцячых садах не навучаюць. У дзіцячых садах навучаюць ветлівасці, добрым паводзінам.

Ну, а што ж, запытаемся, рабіць, калі дзеці ўранку і ўвечары дома, у бацькоў знаходзяцца, — то ці іх па-хатняму, маральна выхоўваць, і можа, ціхенька, непрыкметна вучыць, па мяккім месцы «гладзячы»?..

Бо цяпер жа такія дзеці пайшлі, такія жэўжыкі растуць, што абавязкова яшчэ бацьку і маці павінны навучаць і настаўляць.

І такія бацькі рэкамендуюць: дома трэба ўзяць суровую выхаваўчую лінію.

У суровую лінію, як вядома, уваходзіць падбор маральнага запасу слоў:

— Э-ге, што ж гэта ты там робіш? Куды ж ты, балбес, дзюркаеш? Вунь ідзе бацька. Ідзе і рамяняку нясе...

Вядома, дзіцё папружкі баіцца, спужалася і з перапалоху пачынае пырскаць на пярэсценькія штонікі.

Тады ўжо ад тэорыі слоўнікавага запасу пераходзяць да практычнага спосабу навучання: за мокранькія штонікі, як кажуць, трэба павучаць праз заднія вароты:

— Ах,божухна! Толькі ж сёння надзела зусім новенькія, чысценькія штонікі, а яно ўжо ўсё абмачыла, ухвэцала. Волечка, прынясі дзяркачык, я яго і папалашчу, я яго і пасушу!

Такім чынам, у дапамогу да гэтай суровай практыкі па кутках у доме нарыхтоўваецца: а) дубец, або хварасцінка; б) сухое сцябло з-пад сланечніка; в) дзяркачык; г) мокры трапкач з джгурамі...

Мокры трапкач ужываецца з папярэджаннем:

— Мама! Ам.. Мама, ам, ам...

— От не амкай над душою, бо як амкну, дык і губы самкнеш!

Часам ужываюць апалонік або чарпак.

— Сядзь, — загадваюць.

Дзіцё не сядзіць, смяецца, забаўляецца. Тады загадваюць больш строга і мацней:

— Я каму кажу — сядзь? Сядзь!! Пакуль во гэтым апалонікам не пасадзіла!

Села дзіцянё, есць з місачкі.

— Мама! Яно салёнае!..

— Вы бачылі яго?! Маці наварыла, а яно яшчэ бэрляе, капрызы свае тут паказвае. Вось зараз я табе пасалю!

Соляць, на жаль, не боршч і не бульбяную кашу...

Загольваюць сарочку, а калі хлопчык, то скідаюць порткі і пачынаюць саліць...

Ну, і што ж — парадак! Дзіцё, як шоўкавае.

Ніякіх табе слёз, ніякіх табе нораваў.

Пачынае разумець бацькоў.

Так... Так... Не кажыце: мараль, мараль! Мяне бацькі таксама гэтак навучалі. Ну і што? Ды нічога!... Самі бачыце, усё жывое, цэлае, непашкоджанае... Вы хоць пішыце, хоць распішыце, а я на сваім стаю: яно, малое, добрага слова не разумее. Скажу яму: «Ціха, Вася! Ціха, сыночак!» Не слухае — раве...

А цыкнеш: «Цыц! Каб табе зарвала!» — дальбог, адразу нямее.

□

Вось, вось!.. Я дык думаю, а што, каб такім «выхавальнікам» ды самім па тым самым месцы, дзе ў іх порткі? Дручком, дручком!

Як бы яно было: маральна ці амаральна?

Пераклаў з украінскай мовы
Іван ГРАМОВІЧ.

Мікола ПРЫС

## САТЫРЫЧНЫЯ МІНІЯЦЮРЫ

### ЦАНА ДЫФІРАМБАЎ

Хвала у адрас юбіляра
Падчас гучыць зусім не дарам
Яна, як плата за білет,
Калі прадбачыцца банкет.

### ЗАЯЦ-РАМАНІСТ

«Трусішка зайка шэранькі
Пад елачкай скакаў...»
Заскачаш, бо рэцэнзію
На Зайца Воўк пісаў!

### КАРМІЦЕЛЬ

Дзень за днём страчыў пра тое
і пра гэта —
Рэпартаж, заметку, фельетон.
Дапамагаў пісаць яму ў газету
Высокаўдойны тэлефон.

### УСЯ РОЗНІЦА

«На жалезе я сяджу» —
Так у прозе я скажу.
«На сяджу жалезе я» —
Гэта ўжо паэзія.

## КНІЖКА НА РЫЛЬЦУ БУТЭЛЬКІ

У чэхаславацкіх крамах шмат рознага, харошага і недарагога віна. Перш чым купіць бутэлечку, лепш за ўсё зняць з яе рыльца маленькую кніжачку і пачытаць, што там напісана. Такая кніжачка — цікавы і карысны дапаможнік. Мяркуйце самі. Вось некалькі старонак з гэтай кніжачкі.

«Прызначэнне келіха віна ў тым, каб дазволіць нам хвіліну спрыяльнай спакойнасці, а таксама міру і радасці. Мусіце паспрабаваць шклянку віна, бо без гэтага не можаце быць яго знаўцам.

Глыток віна для кожнага! Але — увага! Піце віно абачліва і ў меру. Не п'ем віна для таго, каб зваліцца, а для таго, каб узнесціся. Не трэба ўмельства за гадзіну напіцца, але трэба ўмець піць віно і не стаць горкім п'яніцам».

На апошняй старонцы кніжачкі з рыльца бутэлькі змешчаны такі верш:

**ДЗЕСЯТКА**

1 — шклянка быццам мёд
2 — коціцца ў рот
3 — прагі дабаўляе
4 — ніхто не стрымае
5 — хваліць не нахваліш
6 — смагі не стрымаеш
7 — пляцеш несуразна
8 — голаў як у блазна
9 — валовыя вочы
10 — паўзеш апаўночы

Дык узяць віна ці не? Мусіць трэба. Тым больш, што апошнія радкі кніжкі гавораць: «Шклянка віна табе не зашкодзіць, а поўную бочку не вып'еш».

Пераклаў з чэшскай мовы
С. ПАНІЗНІК.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.





Індэкс 63856 АТ 07838